Цана асобнага нумару 10 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 44. Вільня, Субота 11 Сьнежня 1926 г. Год II

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ

Выходзе два разы ў тыдзень — у сераду і ў суботу нараніцы.

Адрэс Рэдакцыі й Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. — (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы у двая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

Цана абвестак:
на 1-ай старонцы 30 гр., 2 і 3-яй — 25 гр. і на 4-ай — 20 гр. за радок дробнага друку у вадпэй палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

## Нацыянальная палітыка.

Што польская палітыка нягодная ў адносінах да тых народаў, каторыя прылучаны да Польшчы, гэта ўсім добра ведама. Найнегаднейшая гэтая палітыка ў адносінах да нас Беларусаў. Аб крыўдах, дазнаваных беларускім народам ад польскай ўлады, нашая газэта піша ў кожным нумары, хоць, ведама, мы ня маем магчымасьці сказаць і сотнае часткі таго, што дзеецца запраўды.

Але Беларусы жывуць ня толькі пад Польшчаю, жыве іх яшчэ шмат болей пад Расеяй, ці іначай ў СССР. Дзеля гэтага мы час ад часу мусім кінуць вокам і туды, каб паглядзець, што там дзеецца.

Камуністы хваляцца на ўвесь сьвет, што ў іх добра разьвязяна нацыянальнае пытаньне й ўсе народы ў СССР маюць поўнаю свабоду й магчымасьць нацыянальнага разьвіцьця. Але адна рэч хваліцца, што ў іх ёсьць усім „вольнасьць і роўнасьць", а другая — фактычнае развьязаньне нацыянальнага пытаньня.

Прызнаем, што нацыянальнае пытаньне ў ССРР шмат лепей стаіць як у Польшчы. Але „лепей" ня значыць яшчэ „добра" і дзеля гэтага палажэньне Беларусаў пад бальшавікамі ня ёсьць нам ідэалам. Ня можа вязень з найгоршай турмы лятуцець аб турме лепшай, дзе ёсьць крышку большыя ваконцы, даўжэй пушчаюць на праходак, меней зьдзекуецца адміністрацыя і г. п. „свабоды." Не, вязень лятуціць аб запраўднай ня турэмнай волі. Дык і мы не лятуцім аб маскоўска-бальшавіцкай нацыянальнай „свабодзе."

Як-жа запраўды стаіць нацыянальная справа беларуская пад уладаю бальшавікоў? Наўперад мусім адцеміць, што ўлада тамака не беларускіх але маскоўскіх бальшавікоў, бо бальшавікоў беларускіх ёсьць вельмі мала і яны не прадстаўляюць навет адноснай большасьці у Радавай Беларускай Рэспубліцы, ня кажучы ўжо аб беларускіх землях усходніх, што пад маскоўскім загагадам. Вось-жа ўлада ў Беларусі чужая, не беларуская.

Як ведама, Беларусь, што пад СССР, падзеляна на дзьве часьці. Часьць заходняя, каторую з агульна-беларускага гледзішча трэба назваць часьцяй цэнтральнай, складае так званаю Соцыялістычнаю Беларускую Радаваю Рэспубліку. Другая часьць, усходняя, залежыць беспасярэдне ад Масквы, так, як якаясь губэрнія Яраслаўская, Кастромская і г. п. Гэтая другая частка ня меншая за першаю, у яе ўходзяць ажно тры з гакам паветы (Невельскі, Себескі й Вялiскі) Віцебшчыны, вялізарны Рэчыцкі павет Меншчыны(!) вялізарная часьць Магілеўшчыны разам з Гомельшчынай(!), уся беларуская Чарнігаўшчына дый, ведама, беларускія часьці іншых губэрняў. Гэта вялізарны прастор, ня меней трацiны ўсяе Беларусі, з беларускім насяленьнем звыш трох міліёнаў. Ня гледзячы на тое, што на гэтым прасторы жыве беларускі народ шчыльнай масаю, што констатавана ўжо даўно як урадавй маскоўскай, так і этнаграфічнымі і філёлёгічнымі дасьледзінамі, ён астаецца пастарому ў складзе маскоўшчыны. Праўда неяк сёлета вясною былі чуткі аб тым, што да Беларускае Рэспублікі маюць быць прылучаны Невельскі, Себескі й Вяліскі павет Віцебшчыны і Гомельшчыны (разам з пав. Рэчыцкім і паўночнай паловай Чарнігаўшчыны). Аб прылучэньню да Беларускай Радавай Рэспублікі рэшты беларускіх земляў (Смаленшчыны й іншыя) навет і чуткаў ня было. Але трэба было толькі ў гэтай справе зьездзіць у Маскву комісару Адамовічу, як усё заціхла. Ясна, Масква загадала маўчаць і беларускія комуністыя змоўклі. І ўсё асталося пастарому.

У Радавай Беларускай Рэспубліцы дадзена сякая такая магчымасьць разьвіцьця беларускай культуры, хоць перашкодаў на кожным кроку шмат. Але адміністрацыйны апарат і ўсё жыцьцё гаспадарскае залежыць ад Масквы, каторая ўсім кіруе, ведама, не на карысьць беларускага народу.

А што датычыць беларускіх земляў, каторыя безпасрэдне пад Маскоўшчынаю, дык тамака нямаш магчымасьці весьці і беларускую культурна-асьветную працу. Маскоўшчына, которая вельмі рупіцца, каб і найменшы процант велікарусаў (праўдзівей русыфікованых Беларусаў) у Беларусі ня меў забясьпечанаю нацыянальнаю свабоду, з усяе сілы русыфікуець тры з гакам міліёны беларусаў на спрадвечнай зямлі беларускай.

*д.*

## Зборка „Рады Грамадзкіх і Гаспадарскіх Арганізацыяу усходніх земляу".*)

Беларусы на'т і ня ведаюць, што такая рада ёсьць. А яна ёсьць запраўды. Абрана была на польскім зьезьдзе ў Горадне. Ня гледзячы на свой назоў, Рада гэтая грамадзкімі справамі пакуль што як-бы ня цікавіцца, але затое вельмі падчыркуе справы гаспадарскія. У лютым 1927 г. Рада маніцца склікаць зьезд прадстаўнікоў гаспадарскіх арганізацыяў.

Як прыгатова да гэтага зьезду, была склікана Радаю 8-га сьнежня зборка, на каторую былі запрошаныя прадстаўнікі мясцовых арганізацыяў. Уся зборка складалася толькі з адных Палякаў. Але запросіны дастала й некалькі Беларусаў (інж. Н. Трэпка, д-р Я. Станкевіч, кооп. грам. Крук і грам. Савіцкі).

Зборку адчыніў сэкрэтар Рады п. Камінскі. Пасьля яго сказаў кароткаю прамову старшыня Рады б. генэральны камісар „усходніх земляў" п. Асмалоўскі. Ён паміж іншым адзначыў, што некаторыя беларускія й ўкраінскія групы перашкаджаюць супольнай працы гаспадарскай. Далей прамаўляў п. Лядніцкі, каторы галоўнаю ўвагу зьвярнуў на польскіх асаднікаў у нашым краю, стараючыся іх бараніць. Пан Лядніцкі прызнае, што асаднікаў вельмі шмат у іхняй Радзе, але быццам гэта толькі паказуе на іх ахвоту працаваць на дабро краю, ды хоць іх і шмат, але ўсё-ж такі большасьці яны ня маюць.

Д-р Я. Станкевіч, узяўшы слова зазначыў што ён дастаў іменнае запрошаньне на зборку й будзе гаварыць толькі ад свайга імені. Ён лічыць, што супольная арганізацыя гаспадарская заўсёды карысная. Ці будзе такой гэтая арганізацыя, ён ня ведае. Ня можна тварыць аднае арганізацыі гаспадарскае для Заходняе Беларусі й Валыні, бо жыцьцё народнае й гаспадарскія варункі гэтых земляў розныя. Ён мусіць станоўка запярэчыць, што Беларусы перашкаджаюць гаспадарскай працы. Праўда Беларусы, і то Беларусы ўсіх чыста кірункаў, маюць найрадыкальней—тыя дамаганьні ў пытаньню гаспадарскім, але гэта дзеля таго, што беларускае насяленьне ад польскага гаспадарства (дзяржавы) нічагусенькі ня мае. Дык не дастаючы найменшага, Беларусы дамагаюцца найбольшага. І найправейшая група беларуская прымушана была-б гэтак паступаць. Можа каму здацца, што пры цяперашнім міністру зямельных рэформаў п. Станевічу, Беларусы могуць мець з зямельнай рэформы якую карысьць. Але Беларусам гэта не здаецца, бо Беларусы ведаюць, што ім зямлі наўмысьля не прадаюць. Ён сам знае дзесяткі сем'яў беларускіх, каторым адмовіліся прадаць зямлю, як толькі даведаліся, што іхнія дзеці—сьвядомыя Беларусы. З другога боку, наш край зьніштожаны й пагалелы і купіць зямлі нашыя сяляне ня маюць за што.

Каб насталі справядліўшыя адносіны да Беларусаў і аздаравілася гаспадарскае жыцьцё, канечне трэба:

1) радыкальнай зьмены польскай адміністрацыі ў Заходняй Беларусі;

2) трэба каб з помачай скарбу ўтварыўся Беларускі парцэляцыйны банк, які-бы даваў безпроцэнтныя пазыкі сялянам на куплю зямлі;

3) трэба даць магчымасьць беларускаму насяленьню пры комасацыі, парцэляцыі і г. п. браць сабе за прадстаўнікоў сьвятлейшых людзёў з беларускіх арганізацыяў. Цяпер гэтага сабе беларускае насяленьне дазволіць ня можа, бо за гэта ўлада цяжка карала-б.

4) Трэба даць магчымасьць Беларусам стварыць свой коопэратыўны саюз і даць яму рэвізыйнае права.

Калі Рада Грам. і Гасп. Арг. гэтага дамагаецца, дык Беларусы з ёю пойдуць, а калі не, дык яна Беларусам чужая.

Пасьля прамовы грам. Я. Станкевіча стар. Рады п. Асмалоўскі, заценіў: „Уступайце ў нашаю арганізацыю й дамагайцеся". З гэтага відаць, што дагэтуляшнія сябры Рады нічога падобнага не дамагаюцца.

Другі аратар беларускі, інж. Трэпка, гаварыў таксама толькі ад сваійго імені. Ён закідае Лядніцкаму, што той не зварочуе ўвагі на інтэрэсы краёвыя й бароне асаднікаў. Зусім без палітыкі абыйсьціся нельга, мусіць быць прынамся элемэнтарная палітыка, якой ёсьць раўнапраўе. Калі гэтага ня будзе, дык Беларусам гэтакая арганізацыя не патрэбная.

Далей сказалі цікаўныя прамовы мэц. Вітаўт Абрамовіч і грам. Ст. Сьвяневіч; абодва яны паміж іншым падчыркавалі, што для Зах. Беларусі павінна быць свая асобная арганізацыя гаспадарская. Прамаўлялі яшчэ і іншыя аратары.

Здаецца, што Беларусы, каторыя былі на зборцы, не пераканаліся аб патрэбе Беларусам уходзіць у „Раду Грамадзкіх Арганізацыяў Усходніх Земляў". Хіба, што наадварот...

*Віленец.*

*) Папольску: „Rada Społecznych i Gospodarczych Organizacji Ziem Wschodnich".

вязьняў. Вязьні зажадалі санітарнай комісыі; а калі тая не прышла, палітычныя вязьні абвясьцілі галадоўку, ставячы паміж іншым такія дамаганьні: 1) прыдзяленьне дадатковай каморы, бо там дзе дагэтуль было 120 вязьняў цяпер ёсьць 270, 2) асьвятляньне камораў і калідораў да 9 гадз. ў вечары (дагэтуль было да да 7 г. 30 м.), 3) увядзеньне рэгуляміну Макоўскага, які дазваляе вязьням штотыдзень бачыцца з раднёй і знаёмымі і інш.

Цікава тут адзначыць, што прокурор прызнаўся да таго, як пры заковываньні ў кайданы вязьняў часта білі. Прокурор таксама заявіў вязьням, што калі ня спыняць галадоўкі, то ўсіх перашле ў пазнанскі вастрог.

**Чаго недаведаецца „Віл. Утро“.** У „Віл. Утры“ чытаем: „З Масквы наказуюць, што СРСР прылучыў да Радавай Беларусі частку ковенскай зямлі, каторая аставалася на радавым баку“. Як ведама, ніякая часьць Ковенскай зямлі не асталася на радавым баку. Ня шкодзіла-б „Вил. Утру“ павучыцца географіі.

## Прыклад газэтнае маны.

У нядзелю 5-га сьнежня ў Нова-Вялейцы ў залі „Ада“ Беларускі Інстытут Гаспадаркі й Культуры арганізаваў у 3 гадзіне лекцыю, а ў вечары спэктакль з концэртным аддзелам. Аб гэтым было ў „Навінах“ мінулага (43) нумару нашае газэты.

Увечары пасьля спэктаклю якісь п'яны чалавек штось крыкнуў і за гэта яго паліцыя арыштавала. З гэтага зусім не політычнага, а проста „хмельнага“ здарэньня хворая й злосная фантазыя чарнасоценных польскіх газэтаў утварыла цэлаю „справу“ проці Беларускага Інстытуту Гаспадаркі й Культуры.

„Słowo“ (№ 3 8.XII.) піша, што па спэктаклі „некалькі агітатараў „Грамады“ склікалі веча“, што арыштаваны Уладзімер Пачобут сказаў прамову ў проціграспадарсьцьвеным духе“. Прыблізна тое надрукаваў і „Dziennik Wileński“. Усё гэта чыстая мана, нічагусенькі падобнага ня было.

Але падлыжніцкаму „Виленскаму Утру“ гэтае маны здалося мала й яно, каб, відаць выслужыцца ў ведамым месцу падало ад сябе, што „пасьля лекцыі (ўжо не пасьля спэктаклю! —*Рэд.*) лекара („врача“) Яна Станкевіча (такога „лекара мы ня знаем—*Рэд.*) зрабілі банкет“. Дзеля сьмяютных вартасьцяў гэтае заценкі „Вил. Утро“ яе цэлаю друкуем у „Кутку сьмеху й сатыры“.

# З Польшчы.

### Польскі бюджэт на першую квадру 1927 г.

Рада Міністраў на апошнім сваім паседжаньні прыняла праект бюджэту на 1-ую квадру 1927 г.

Дзяржаўны 3-х месячны бюджэт выносе 489.317.740 зл. У гэтым бюджэце падбачана павышэньне пэнсіі ўраднікам на 10 проц.

Прыняты Радай Міністраў бюджэт ужо пададзены ў Сойм на разгляд.

Праект уставы аб бюджэце ўпаўнамачавае да адкрываньня крэдытаў да 10 мільёнаў зл. на ваенныя інвэстыцыі (будовы ваенных фабрык, казармаў і інш.); да выдаваньня авансаў да сумы 10 мільёнаў зл. на закупляньне збожа для войска. Апрача таго бюджэт прадбачыць павышэньне пэнсыяў на 10 проц. ваенным і афіцэрам рэзэрвы, што затрыманы на службе. Усе выдаткі бюджэту складаюцца з такіх пунктаў:

| | |
|---|---|
| Прэзыдэнт П. Р. | 849.393 |
| Сойм і сэнат | 2,848.657 |
| Дзяржаўны контроль | 1.104.270 |
| Прэзыдыум Рады Міністраў | 435.349 |
| Міністэрства Замежных Спраў | 9.880.136 |
| Мін. Ваенных Спраў | 158.015.000 |
| Мін. Унутран. Спраў | 46.369.362 |
| Мін. Скарбу | 24.329.325 |
| Мін. Справядлівасьці | 22.078.236 |
| Мін. Прамысл і Гандлю | 10.898.478 |
| Мін. Комунікацыі | 879.260 |
| Мін. Земляробства | 8.395.094 |
| Мін. Рэл. Вер. і Асьветы | 77.882.100 |
| Мін. Публічных Работ | 17.874.882 |
| Мін. Працы і Грамадзкай Апекі. | 17.482.178 |
| Мін. Зямельных Рэформаў | 3.993.460 |
| Эмэрытуры | 19.640.000 |
| Інвалідзкія рэнты | 29.000.000 |
| Дзяржаўныя даўгі | 34.942.775 |

Усе гэтыя крэдыты маюць быць расходаваны ў працягу 3-х месяцаў (студзень, люты й сакавік 1927 г.).

Праект бюджэту мае ў сабе новыя крэдыты, якіх у сёлетнім годзе ня было. З новых крэдытаў найважнейшыя: 200 тысяч зл. на будову дому для міністэрства Асьветы; 1.293.300 зл. на сплату купленай фабрыкі „Вагон“, якая старгавана за 5.800 тысяч швайцарскіх франкаў.

Як бачым з вышэй паданых лічбаў найбольш грошы забірая ваеннае міністэрства. Выдаткі на гэтае міністэрства за год маюць вынесьці каля 635 мільёнаў зл.

Але адкуль будуць брацца грошы на ўсе гэтыя выдаткі!?

## СЯЛЯНЕ!

## Выпісывайце сваю газэту!

Усім добра вядома, як нам Сялянам-Беларусам цяжка цяпер жывецца. Але ніхто да нас не прыходзе і ня прыдзе каб нам памагчы. Мы ўсе разам павінны шукаць дарогі, каб палепшыць сваю долю. Гэтая дарога ў нашым асьведамленьні, у нашай арганізаванасьці, у нашых супольных дамаганьнях. Каб мы ўсе маглі ведаць, як ідзе барацьба за лепшую долю Беларускага Народу, павінны чытаць сваю сялянскую газэту. **„Сялянская Ніва“** шчыра і сьмела бароніць вашыя сялянскія інтарэсы, вашыя грамадзкія й чалавечыя правы, якія на кожным кроку нарушаюць то ўлады, то паны, то іншыя няпрошаныя госьці. Толькі чытаючы сваю газэту й асьведамляючыся аб тым, што робіцца ў нашых ворагаў, што дзеецца ў сьвеце, можам спадзявацца, што надойдзе той час, калі мы самі будзем гаспадарыць на роднай зямлі.

Дык не пашкадуй 1 зл. ў месяц і пашлі яго ў рэдакцыю (адміністрацыю), за тое атрымаеш два разы ў тыдзень сваю газэту. Першыя пробныя нумары ў працягу аднаго месяца рэдакцыя высылае дарма!

Калі хочаш атрымаць пробныя нумары газэты то прысылай заяву такога зьместу:

У Адміністрацыю
„Сялянскае Нівы“
ў Вільні,
Полацкая 4—7.

Ветліва прашу адміністрацыю „Сялянскае Нівы“ высылаць пробныя нумары Вашай газэты на такі адрэс:

(—)
(подпіс).

Дня . . . . . . 192 . г.

Па атрыманьні такой заявы адміністрацыя вышлець газэту.

**Дык кожны хто ўмее чытаць сьпяшайся выпісаць сваю газэту „Сялян. Ніву“!**

### Дадатковы бюджэт на 1926 год.

Апрача бюджэту на першую квадру 1927 г. урад падаў у Сойм дадатковы бюджэт на 1926 гад. Дадатковы бюджэт даходзіць да сумы 38.998.901 зл. Такім чынам урад зрабіў перарасход грошы па бюджэту амаль што не на 39 мільёнаў зл. Калі прыпомніць, як Сойм два месяцы таму назад якраз зьменшыў бюджэт на чацьвертую квадру 1926 г. й што ў гэтым часе ўрад Бартля мусіў пайсьці ў адстаўку, то перарасход, які робіць урад м. Пілсудскага, гавора толькі аб тым, што цяперашні ўрад зусім ня лічыцца з пастановамі Сойму.

Тое што Сойм раней зьменшыў, будзе цяпер прымушаны павялічыць.

### Бюджэт Міністэрства Публічных Работ.

Нядовячы Соймавая Бюджэтная Комісія прыступіла да разгляду Бюджэту Міністэрства Публічных Работ.

Некаторыя паслы на Комісіі выступілі з прапазыцыяй зьліквідаваньня гэтага Міністэрств.

Наагул бяручы такое міністэрства з пункту гледжаньня дапамогі беларускаму сялянству адбудавацца, то трэба сказаць, што лепш, каб ужо яго зьліквідавалі, бо нашыя сяляне не дастаюць у Міністэрства Публ. Работ дапамогі на адбудову. Селянін плаці толькі падаткі, а карысьць маюць толькі ўраднікі, асаднікі і часам іншыя Палякі, але толькі не Беларусы.

### Паседжаньне Сойму.

У пятніцу 10-га сьнежня адбылося пленарнае паседжаньне Сойму. На парадку дня, паміж іншымі справамі было: першае чытаньне праекту бюджэту на першую квадру 1927 г.

### Арышты.

У ночы з 2 на 3-га сьнежня ў Лодзі паліцыя арыштавала 18 чалавек абвіняючы іх у комунізьме.

### Забастоўка пекароў.

У нядзелю вечарам у Лодзі выбухнула забастоўка пекароў. Пекары ня хочуць працаваць у ночы.

## СЯЛЯНЕ!

**Аб усіх крыўдах, аб зьдзеках адміністрацыі і аб вашым жыцьці пішыце ў сваю газэту „Сялянскую Ніву“.**

---

такі!... Але дазваленьня не дастаў, а казалі прыйсьці за два дні...

А ў хаце манцёр ужо закончыў работу і толькі ня прылучыў лічніка да галоўнага праваду, бо на гэта трэба дазваленьне ад Магістрату і гэтакім парадкам сталася, што лічнік вісеў ужо на новым месцу, а... лямпачкі не гарэлі...

— Ну, вось і перанёс — пілавала Міхася жонка — казала я, што усё роўна, дзе ня вісіць... дык не!... трэба было яму пераносіць!... Сядзі-ж цяперка ў цемры, ды купляй сьвечкі...

Міхась маўчаў, 2 дні хадзіў, як хмара. А на трэці ўжо ў 9 гадзінаў быў у Магістраце і стаяў у радоўцы (колеі) да „першага“... Але „першы“ ізноў паслаў яго, да паненкі, паненка да „тога“, а той вярнуў да „першага“...

— Прыйдзеце заўтра ў 8 гадз. — сказаў „першы“ — бо справа вашэцява вось тутака— і ён паказаў на пусты стол — а пан з гэтага стала прыймае толькі ад 8-е да 9-е на раніцы...

— У восем, дык у восем... згадзіўся пакорна Міхась і назаўтра акуратна ў 8 быў ужо тутака і новаму пану разьясьняў сваю справу...

— А ведаю... з аднае на іншаю... пачакайце крышку... і новы пан парыўшыся ў папцы дастаў Міхасёву просьбу, напісаў зараз-жа нейкі чырвоны квіток і ськіраваў Міхася ізноў да першага, а той спаткаў ужо Міхася, як старога знаёмага, праглядзіў квіток і быццам чымсь нездаволяны голасна спытаўся, зьвярнуўшыся да пана, які прыслаў Міхася: „а болей нічога?...“

— А каўцыю яшчэ... падумаўшы крыху адклікнуўся той...

— Вось, вось—усьцешыўся „першы“ і зараз: чырк, чырк—напісаў другі квіток і да Міхася—teraz pan załatwi ў касе ды ізноў да мяне...

А ў квітках: ў першым — сьпісак матэр'ялу і ў канцы, ўнясьці ў касу 23 залат., а ў другім — каўцыя 15 залатовак...

Вось табе на! — апусьціў галаву Міхась... І не пайшоў ужо ў касу, а проста ськіраваўся дамоў...

— Ну што прынёс дазваленьне?!... Накінулася жонка...

— Якое тамака дазваленьне... Заплаціць трэба спачатку... вось 38 залатовак...

— Ах, ты, стары дураны!... Ну не казала я — залаялася жонка... А тутака дзеці яшчэ: і цэмна, і лекцыі ня могуць гатаваць... і тое і іншае...

Крахтаў, крахтаў стары Міхась, праседзеў яшчэ два дні без асьвятленьня і ня вытрываў— выскраб сваю апошняю ашчаднасьць і панёс у касу...

„Залатвіўшы“, да „першага“: — вось квіткі... „ўсё зроблена, калі ласка, дазваленьне“...

Добра, добра, калі ласка.., цяпер адно да гэтага пана — і паказаў на тога, што выдае чырвоныя квіткі...

Міхась туды — вось квіткі... усё зроблена... калі ласка дазваленьне...

Той паглядзеў на квіткі —

— А матэр'ялы маеце?...

— Якія мамар'ялы?!...

— А тыя, што выпісаны ў квітку...

— Дык я за іх грошы-ж заплаціў у касу...

— Гэта за работу, а матэр'ялы пане, мусіце купіць і як купіце, дык заходзьце... тады і дазваленьне дастанеце і манцёра вам дамо...

І заздуваўся стары Міхась і плюнаў на выдаткі, якія ўжо зрабіў, дый пашоў шукаць маньцёра, каб перанясьці лічнік назад на старое месца, але свайго манцёра не знайшоў, а іншыя адмовіліся — кажуць — пакажэце, пане, дазваленьне ад Магістрату, дык мы вам перанясём...

І прыціх Міхась... Лічнік вісіць на новым месцу... жонка пілуе кожны дзень... дзеці крычаць... Выдаткаў зроблена шмат, а... асьвятленьня няма.

Няма й дагэтуль, бо матэр'ялы каштуюць як раз толькі, колькі ўжо выдадзена, а грошаў цяперка не зьбярэш.

*Стары Хасень.*

